НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

№ 10 (139), ЛІПЕНЬ 2012 ГОДА

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## МАРАЛЬНЫ ВЫБАР

**Беларусам зноў абяцалі забяспечыць свабоднае волевыяўленне грамадзян на парламенцкіх выбарах у Палату прадстаўнікоў. На фоне звыклага буднічнага жыцця галоўная палітычная падзея года застаецца па-за ўвагай насельніцтва. Не заўважана ніякіх зрухаў ці прыкметаў палітычнай кампаніі, акрамя сціплых абвестак у раёнцы. Ці вераць шумілінцы ў справядлівыя выбары?**

Між тым падзеі вакол выбараў разгортваюцца па запланаваным сцэнары. Утвораны і зацверджаны склад акруговай выбарчай камісіі Віцебскай сельскай акругі №21. У раёне ўтвораны 32 участкі для галасавання. З 15 ліпеня пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу пятага склікання. Права вылучаць сваіх прэтэндэнтаў на месцы ў парламенце маюць палітычныя партыі, працоўныя калектывы і грамадзяне шляхам збору подпісаў. Днямі зарэгістравана акруговай камісіяй дзве ініцыятыўныя групы па зборы подпісаў: Уладзіміра Шыцько і Леаніда Аўтухова. Для рэгістрацыі кандыдата неабходна сабраць тысячу подпісаў.

Надоечы кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка заявіў, што парламенцкія выбары ў Беларусі будуць паказчыкам рэйтынгу ўлады. У прыватнасці ён адзначыў, што ўлада трымае экзамен перад народам, а мы яго не баімся і будзем адкрытымі. Аднак у дачыненні да дэмакратычных стандартаў АБСЕ пастаўціся крытычна. Гэта еўраарганізацыя кожны раз абвінавачвае рэжым у ашуканстве беларускіх выбаршчыкаў. Пасля чаго атрымліваецца, што міжнародная супольнасць не прызнае фальшывыя выбары ў Беларусі. А калі цывілізаваны свет лічыць афіцыйную ўладу нелегітымнай, то ў чыноўнікаў здараюцца вялікія праблемы з бізнесам і фінансамі.

Апазіцыйныя палітыкі, якія маюць асабісты вопыт удзелу ў мясцовых выбарах, чарговы раз умацаваліся ў думцы, што ўсё вырашае не камісія па выбарам, а вертыкаль улады. Пры гэтым прапагандысты ад улады кожны раз заклікаюць і запэўніваюць, што ўсё будзе праведзена пачэснаму. Нібыта кандыдат будзе залежыць ад волі выбаршчыкаў, каго народ падтрымае – той і стане дэпутатам.

Але якія гарантыі таго, што гэта чарговае абяцанне дэмакратычных выбараў будзе выканана?

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына ўпэўнена, што дэмакратыі на Беларусі больш, чым дастаткова. "Мы развялі такую дэмакратыю, якая шакіравала нават АБСЕ". І сапраўды, спадарыня Ярмошына ў чымсьці мае рацыю. Не толькі АБСЕ, але і ўвесь цівілізаваны свет, акрамя краінаў-ізгояў амаль два дзесяткі гадоў не можа прызнаць выбары ў Беларусі дэмакратычнымі і свабоднымі. Апроч таго, пануючаму рэжыму не падабаюцца тыя умовы, якія прапанавалі міжнародныя арганізацыі. Па-першае, чаму дагэтуль не выпусцілі палітычных вязняў, сярод якіх знаходзіцца і былы кандыдат у дэпутаты Мікола Статкевіч? Падругое, чаму не пускаюць на агульнанацыянальныя каналы ўсіх лідэраў зарэгістраваных палітычных партый? Выбаршчык не павінен бачыць толькі адну і тую ж асобу вось ужо 18 гадоў, яму патрэбна альтэрнатыва. Дэмакратыя – гэта найперш дыялог палітыкаў з рознымі палітычнымі поглядамі, а не бясконцы маналог аднаго мудрага правадыра, які пра ўсё на свеце ведае і ўсіх павучае жыць па ўласных дэкрэтах. У Канстытуцыі запісана, што асноўнай крыніцай улады з'яўляецца народ. А гэта азначае, што грамадзяне самастойна павінны рэалізоўваць сваё канстытуцыйнае права, без уціску з боку выканаўчай улады.

Дарэчы, у краінах з развітай дэмакратыяй існуюць грамадскія інстытуты, дзе вывучаюць грамадскую думку аб дзейнасці тых ці іншых палітыкаў, а затым даныя размяшчаюць у СМІ. Працэй кажучы, выбаршчык ужо загадзя азнаёмлены з рэйтынгам тых палітычных дзеячоў, якія толькі вылучаюцца ў кандыдаты. На Беларусі такія даследванні ўлада забараняе. Па ўсяму відаць, што прызначэнцам ад вертыкалі будзе не вельмі прыемна ведаць, як людзі ацанілі іх дзейнасць яшчэ да выбараў. Таму зусім не выпадкова, што вертыкальшчыкі кожны раз балатуюцца ў новым раёне – там, дзе іх не ведаюць. Да прыкладу, сам цяперашні старшыня Палаты Уладзімір Андрэйчанка балатуецца ні ў сваім родным Лёзненскім раёне, ні ў абласным цэнтры, дзе 14 гадоў займаў кіроўную пасаду. Яго ініцыятыўная група цяпер зарэгістравана ў Докшыцкай выбарчай акрузе. Словам, куды прызначыла вертыкаль улады – туды і пайшоў. Вось такое народнае "волевыяўленне" самого кандыдата.

Пра ўзровень гатоўнасці нашых шумілінскіх выбаршчыкаў можна высветліць толькі ў прыватных размовах. Меркаванні наконт справядлівасці выбараў розныя. Але мала такіх, хто кажа, што выбары будуць чэснымі і няма ніякіх падставаў сумнявацца ў іх справядлівасці. Гэтыя асобы больш цесна звязаны з уладнымі структурамі і працуюць у дзяржаўных установах. Нямала і тых, хто ўжо прызвычаіўся да гэтага мерапрыемства, як да нейкага суботніка, на які трэба хадзіць па загаду начальства. Найбольш характэрныя адказы: "А што мы можам зрабіць? Нам на рабоце сказалі, мы і пашлі "галасіць". Ад нас нічога не залежыць, без нас разбяруцца". Такія аргументы ў людзей старэйшага пакалення. Шмат такіх, якія не змаглі назваць дату выбараў, палітыкай цікавяцца мала. А калі і ўспамінаюць пра выбары, дык толькі падчас прэзыдэнцкай кампаніі.

Як бы там ні было, але кожны грамадзянін павінен з усёй адказнасцю ставіцца да выбараў. Крытэрый ацэнкі адзін: Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь. Падчас выбарчай кампаніі трэба часцей чытаць артыкулы выбарчага заканадаўства. І не падпарадкоўвацца тым местачковым бюракратам, якія прывыклі парушаць законы і пазбягаць адказнасці. Калі не будзе сумленных выбараў, дык можна зрабіць сумленны выбар па закону. Каб не сорамна было глядзець у вочы сваім нашчадкам.

**Аляксандр Шчамлёў.**

ТЭРЫТОРЫЯ ДАБРА

## Справілі наваселле

**Новы дзіцячы дом сямейнага тыпу адкрыўся ў Шуміліне. Пасяліліся тут сям'я Ігара і Наталлі Церахавых з трыма дзецьмі. Хутка да шматдзетнай сям'і далучацца двое дзетак з мясцовага прытулку. Пакуль што будуць выхоўваць трое сваіх і двух прыёмных, а з цягам часу плануюць прыняць яшчэ пяцёра дзяцей.**

Двухпавярховы катэдж мае пяць жылых пакояў агульнай плошчай двесце квадратных метраў, якія разлічаны на вялікую сям'ю з 12 чалавек. Навасёлы атрымалі не толькі зручнае і прасторнае жыллё, але і новую мэблю, бытавую тэхніку, цацкі.

Само сабой, што адпаведна будзе абсталявана і тэрыторыя сядзібы, дзе знойдзецца месца гульнявым пляцоўкам, кветнікам, саду ды агароду. Аднак гэта ўжо будуць клопаты саміх гаспадароў. Акрамя таго, Церахавы плануюць узвесці прыбудовы: гараж і хлеў. У хляве будуць трымаць свіней і курэй.

За выхаванне дзяцей у Ігара і Наталлі будзе залічвацца працоўны стаж. У працоўных кніжках напісана, што яны прынятыя аддзелам адукацыі ўякасці бацькоў-выхавальнікаў на паўтары стаўкі і атрымліваюць адпаведны заробак, плюс дапамогу на кожнае прыёмнае дзіця.

Але нават вопытным выхавальнікам патрэбная дапамога. Сем'і будуць наведваць спецыялісты з аддзела адукацыі. Асобна будзе працаваць педагог-псіхолаг.

У сваю чаргу дзеці з інтэрната павінны падпісаць дакумент, у якім яны пацвярджаюць, што згодныя выхоўвацца ў дзіцячым доме сямейнага тыпу. Там яны будуць да 18 гадоў ці пакуль не паступяць у сярэднюю або вышэйшую навучальную ўстанову. А сем'і будуць набіраць новых выхаванцаў.

Практыка паказвае, што ўсё больш і больш сем'яў гатовы ўзяць на выхаванне дзяцей, што засталіся без бацькоў. Тым больш, што за бліжэйшыя гады ў нашай краіне стаіць задача адмовіцца ад дзіцячых дамоў і прытулкаў.

Пажадана, каб было больш такіх дамоў сямейнага тыпу, дзе б пакінутыя роднымі бацькамі на волю лёсу дзеці знаходзілі сямейную цеплыню, але ў той жа час каб станавілася менш нядбайных бацькоў і абяздоленых дзяцей.

**С. Горкі.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

У ЦЭНТРЫ УВАГІ

# Праблемы маланаселеных вёсак

**Пра састарэлыя хаціны і занядбаныя падворкі, забытыя спадкаемцамі, казалі шумілінскія чыноўнікі на чарговым пасяджэнні райсавета. Колішнія гаспадары сыходзяць у нябыт, а нашчадкі не спяшаюцца наведваць малую радзіму. Але раённая ўлада не абавязана пагадзіцца з тым, каб былыя гаспадарскія сядзібы псавалі краявід непрыглядным выглядам.**

Спраў па добраўпарадкаванні маланаселеных пунктаў і прылеглых да іх земляў хопіць яшчэ на доўгі час. Маладыя з'язджаюць у іншыя месцы, а састарэлыя паміраюць. Агароды не апрацоўваюцца, і зямля не прыносіць карысці, а наадварот, з'яўляецца рассаднікам пустазелля. Асірацелая хаціна разбураецца, агароджы хіляцца да долу, закінутая сядзіба зарастае бур'янам. Безумоўна, што гэту сітуацыю мясцовая ўлада павінна выправіць да лепшага.

Не першы год на асаблівым кантролі былі і застаюцца занядбаныя падворкі, састарэлыя хаціны і гаспадарчыя пабудовы. Вядзецца пошук спадкаемцаў, удакладняецца далейшы іх лёс. Раней у мясцовых органаў улады не хапала рэальных рычагоў уплыву на нядобрасумленных гаспадароў альбо тых, хто атрымліваў дамы ў спадчыну і не спяшаўся даглядаць іх.

Вясковай нерухомасцю сельскія Саветы ўшчыльную заняліся ў 2006-м пасля ўступлення ў сілу Указа №70 "Аб мерах па ўпарадкаванню, уліку і скарачэнню колькасці пустуючых і старых дамоў". Аднак, мясцовая ўлада, выходзячы са свайго пункту гледжання, распарадзіцца такімі дамамі не можа. Таму поўнасцю навесці парадак усё яшчэ не ўдаецца, бо толькі суд мае права прызнаць дом безгаспадарчым. А ў суд трэба прадаставіць пакет дакументаў, а каб іх аформіць, патрэбны грошы.

Праўда, сёлета на працэдуру прызнання дамоў безгаспадарчымі ў бюджэты мясцовых сельвыканкамаў былі закладзены сродкі. І гэта дало плён. Да прыкладу, на тэрыторыі Обальскага сельсавета налічваецца 39 вёсак, дзе закінутыя дамы былі знесены. Неўзабаве былі адшуканы праз суд і тыя сямёра гора-нашчадкаў, якія забыліся пра сваё струхлелае радавое гняздо. Увогуле за кошт бюджэта на Шумілінчыне было знесена 280 занядбаных пабудоў, агульны лік па раёну дасягнуў лічбы ў 700 дамоў. Адначасова вядзецца барацьба з антысанітарным утрыманнем прысядзібных участкаў каля пустуючых дамоў. Так, сёлета сельвыканкамы накіравалі 11 прадпісанняў грамадзянам па навядзенню парадку.

На сённяшні дзень засталіся пытанні аб выкарыстанні вызваліўшыхся зямельных ўчасткаў у агульным севазвароце мясцовых сельгаспрадпрыемстваў. Апроч таго, трэба мець на ўвазе, што пасля рэкультывацыі зямель ей могуць зацікавіцца новыя забудоўшчыкі.

Старшыня райсавета Ірына Новікава ўпэўнена, што больш рашучыя дзеянні разам са старшынямі сельвыканкамаў і старэйшынамі могуць надаць родным вёсачкам дастойны выгляд, каб не сорамна было перад землякамі. Папярэдні вопыт работы паказвае, што без грамадзянскай актыўнасці тых жа старэйшын воз мясцовых праблем не пацягнеш. Паводле старшыні Сіроцінскага сельвыканкама Вольгі Пастарнакавай, ёсць чаму павучыцца ў старэйшын вёскі Змзцы І. Апоркінай і з вёскі Сянькова Е. Лявонавай. Абое спадарыні прымаюць актыўны ўдзел у жыцці вяскоўцаў. А людзі тут жывуць паўсядзёнымі праблемамі і клапоцяцца аб справах больш прызямлёных. Нядаўна з дапамогай мясцовага дэпутата ў Сянькове вырашылі праблему з пітной вадой.

Застаецца спадзявацца, што намечаныя планы ў рамках добраўпарадкавання будуць выкананы без недахопаў. Магчыма і тутэйшае насельніцтва нарэшце праявіць актыўнасць і пойдзе насустрач уладам. Разам з тым нашчадкі павінны адчуваць, што ўлада пасля просьбаў мае права прымаць рашучыя меры і прыцягнуць да адказнасці нядбайных гаспадароў праз суд.

**Алесь Шумскі.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам***

КНІГА СКАРГАЎ

# Пра дзіравы дах і маўчанне камунгаса

**Жыхары дома №6 па вуліцы Зялёнай з вёскі Амбросавічы напісалі калектыўны зварот у камунгас аб рамонце дзіравага даху, з якога падчас даждју заўсёды цячэ вада. Аднак ужо мінула больш паўтара месяца, а службоўцы камунгаса нават не далі пісьмовага адказу на скаргу грамадзян.**

Дасведчаныя людзі ведаюць, як вельмі непрыемна і крыўдна, калі працякае дах і на століі, і сценах з'яўляюцца брудна жоўтыя і бурыя пляміны. Нягледзячы на тое, што два гады таму ў доме № 6 па вуліцы Зялёная быў праведзены запланаваны рамонт згодна з графікам, дах усё роўна працякае. Ды і ці магчыма назваць рамонтам работы, калі падфарбавалі фасад, залаталі некалькі дзірак на даху ды падмазалі тынкам трэшчыны?

Відавочна, ЖКГ – тая сфера ад дзейнасці якой залежыць зручнасць нашага пражывання ў жылым сектары. У звычайным жыцці людзі не заўважаюць, ды і не павінны заўважаць тыя непаладкі, якія ўзнікаюць падчас эксплуатацыі жылля. За гэтым павінны сачыць спецыялісты. Жыхары пачынаюць непакоіцца тады, калі на іх плечы цяжкай ношай ляглі клопаты па добраўпарадкаванню уласнасці, якая знаходзіцца на балансе дзяржавы.

Дарэчы, на апошняй "прамой лініі" старшыня райвыканкама Уладзімір Куранны прадэманстраваў цвёрды намер змяніць псіхалогію тых грамадзян, якія са сваімі скаргамі на дробязныя праблемы ідуць адразу ў райвыканкам, а не ў адпаведныя інстанцыі. Зрэшты, камунальныя праблемы цесна звязваюць ланцугом усе населеныя пункты. Напэўна, не толькі жыхароў Амбросавіч хвалюе, што працякае дах жылога дома. Гэта праблема досыць распаўсюджана. І нягледзячы на клопаты розных службаў, "гарачых кропак" у камунальнай сферы менш не становіцца. Насамрэч маюць рацыю людзі, калі адразу скардзяцца асабіста кіраўніку раёна. Бо ўслед за кожным такім заклапочаным званком на "прамую лінію", як правіла, распачынаюцца канкрэтныя дзеянні. Нават тады, калі прыходзіцца сур'ёзна падкарэкціраваць ужо загадзя складзены сезонны графік работ у цэлым. А пакуль што жыхары па вуліцы Зялёнай вырашылі напісаць паўторны зварот, але на гэты раз ужо ў райвыканкам. Шчыра кажучы, што ім яшчэ застаецца рабіць, калі чыноўнікі з ЖКГ ніяк не рэагуюць на калектыўнае пісьмо? Хаця б адпіску даслалі. Ці можа арганізацыя так збяднела, што ў іх няма грошай на канверты?

**Уладзімір Амбросаў.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# РАЗВІТАЛЬНЫ КАНЦЭРТ

**У парку райцэнтра ладзілі канцэрт на развітанне ўкраінскія артысты, якія жылі ў нашым раёне падчас фестывалю "Славянскі базар". Фальклорны ансамбль "Церніца" аддзячыў шумілінцам за гасціннасць цудоўнымі песнямі.**

Народны ансамбль з Белацаркоўскага раёна Кіеўскай вобласці з 2009 года прымае ўдзел у фестывалі мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Сёлета кожны дзень украінскія госці выступалі на канцэртных пляцоўках Віцебска, выязджалі ў Гарадок. Акрамя таго, народны калектыў "Церніца" ужо пабываў на міжнародных фестывалях у Італіі, Балгарыі, Расіі.

Са сцэны адкрытай пляцоўкі на мілагучнай украінскай мове да гледачоў даносіліся песні ў выкананні самадзейных выканаўцаў. Нездарма песню называюць гаючымі лекамі для душы. А калі гэта яшчэ і ўкраінская народная песня, то асалоду ад яе атрымліваем не меней, чым ад беларускай. Перад сілай музыкі, удала падабраных слоў, якія пранікаюць у душу, на сэрцы становіцца лягчэй. Душа ўкраінскага народа жыве і ў старадаўніх песнях, у сучасных, або ў нядаўніх творах украінскіх аўтараў. На працягу дваццаці год шматлікіх аматараў песні радуе свой самабытнасцю і разнастайным рэпертуарам "Церніца". Ад імя творчага калектыву падзякавала шумілінцаў за цёплы прыём намеснік аддзела культуры Белацаркоўскага раёна Людміла Палішчук.

**Алесь Прыбярэжны.**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

# ДЭМАГРАФІЧНЫ ЗАНЯПАД

**За студзень-травень на Шумілінішчыне зафіксавана далейшае змяншэнне насельніцтва. Сітуацыя пагоршылася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Калі ў 2011 годзе у раёне пражывала 19 тысяч 828 чалавек, то ў 2012 (на канец перыяду) ужо 19 тысяч 227 чалавек.**

Колькасць насельніцтва ў Шумілінскім раёне на 1 чэрвеня 2012 года склала 19 тысяч 186 чалавек. Гэта сведчыць аб тым, што насельніцтва раёна, як і насельніцтва ўсёй краіны, працягвае змяншацца. Разам з тым паказчык смяротнасці застаецца высокім і працягвае пастаянна расці далей. Да прыкладу, за студзень-травень у 2012 годзе памерла 199 чалавек, што на 2,6% больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Даныя сведчаць аб тым, што таксама ўзрасла лічба адмоўнага натуральнага спаду насельніцтва. Так, за студзень-травень 2011 года гэты паказчык складаў -86, а ў 2012 годзе ўжо падскочыў да -101.

Увогуле, самая неспрыяльная сітуацыя са змяншэннем насельніцтва ў Віцебскай вобласці. Вобласць лідзіруе па колькасці памерлых: за студзень-травень ў разліку на 1000 жыхароў колькасць памерлых саставіла 16,0 чалавек. Пры гэтым каэфіцыент смяротнасці дасягнуў лічбы 8, 053.

З а б е с п я ч э н н е дэмаграфічнай бяспекі — прыярытэтны напрамак сярод сацыяльных праблем нашай дзяржавы. Значнасць дэмаграфічных працэсаў вызначаецца негатыўнымі тэндэнцыямі сучаснага дэмаўзнаўлення ў Беларусі: нізкім узроўнем нараджальнасці, высокай смяротнасцю, адмоўным сальда прыросту насельніцтва, ростам колькасці па-за шлюбных дзяцей, адмоўнымі з'явамі ў галіне міграцыі жыхароў, старэннем насельніцтва, няспынным працэсам дэпапуляцыі і шэрагам іншых з'яў.

Негатыўныя тэндэнцыі ў нашай краіне праявіліся з 1993 года. Тады ўпершыню смяротнасць узяла верх над нараджальнасцю: колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 11,2 тыс. чалавек. Відавочна, што дэмаграфічная абстаноўка на Беларусі пагаршаецца і па сённяшні дзень. На 1 чэрвеня 2012 года колькасць насельніцтва Беларусі склала 9 мільёнаў 458 тысяч чалавек і ў параўнанні з пачаткам бягучага года скарацілася на 7,2 тысячы чалавек.

Крыху палепшылася сітуацыя з нараджальнасцю. За студзень-травень па рэспубліцы нарадзілася 45 022 дзяцей, што на 3 168 дзяцей больш, чым у мінулым годзе. Памерла 54 007 чалавек, або на 4 647 чалавекі меней. Аднак натуральныя страты насельніцтва саставілі 8 985 чалавек. Сямейнае жыццё маладых грамадзян па-ранейшаму не ладзіцца. За студзень-травень 2012 года ў параўнанні са студнем-траўнем 2011 года колькасць зарэгістраваных шлюбаў зменшылася на 11,7%, колькасць разводаў павялічылася на на 7,4 %. За студзень-травень 2012 года на 1 000 шлюбаў прыпадала 835 разводаў, за студзень-травень 2011 года –687 разводаў.

Па ўсяму бачна, што дэмаграфічная сітуацыя ў раёне характарызуецца тэндэнцыямі скарачэння колькасці насельніцтва. Прычым насельніцтва Шумілінішчыны таксама няўхільна змяншаецца на працягу больш двух дзесяткаў гадоў – з 28 тысяч 400 чалавек на пачатку 90-х гадоў да 19 тысяч 227 чалавек у 2012 годзе. У выніку атрымліваецца, што колькасць насельніцтва Шумілінскага раёна ў параўнанні с 1990 годам скарацілася на 9173 чалавекі –раён страціў трэць сваіх жыхароў.

**Алесь Шумскі.**

(Фатаграфія з сайта http://www.shumilino.vitebsk-region.gov.by/ru)




"СТАБІЛЬНАЕ" ЖЫЦЦЁ

# КУДЫ ПАДЗЕЛАСЯ СТАБІЛЬНАЯ ЗАКОНАПАСЛУХМЯНАСЦЬ?

**Перад супрацоўнікамі раённага аддзела ўнутраных спраў выступіла кіраўнік ідэалагічнай групы С. Вярцінская. Гаворка ішла аб надзённых праблемах і сітуацыі па краіне ў цэлым, якую прадстаўніца ідэалагічнай вертыкалі назвала "стабільнай". Аднак ці азначае гэта, што ўсе крызісныя з'явы засталіся ў мінулым, а для жыхароў раёна адбылося аднаўленне ранейшага жыцця?**

Насамрэч, ідэолагі раёна вымушаны былі прызнаць, што вядучыя прадпрыемствы, сярод якіх Обальскі керамічны завод, Шумілінскі льнозавод, прадпрыемства меліярацыйных сістэм і райспажыўтаварыства спрацавалі са стратамі. Былі агучаны і лічбы па сярэдняй заработнай плаце, якая за травень склала 2512 тысяч рублёў. Як бачна, да загадаў кіраўніцтва краіны аб сярэднемесячным заробку гэты сціплы паказчык яўна не дацягвае. Варта адзначыць, што ўлады аддаюць пытанню росту заробкаў значную ўвагу. Лукашэнка ў катэгарычнай форме патрабаваў ад прэм'ера Мясніковіча давесці сярэдні заробак у краіне да 500 долараў. Нягледзячы на высілкі кіраўнікоў, рэальны заробак вырас усяго на 20-30%. Цэны ж растуць прыкладна на 1,5% у месяц. Аднак падзенне заробкаў у валютным выражэнні адбылося ўвая, таму ашчаджэнні ў людзей зменшыліся. Да таго ж растуць камунальныя тарыфы. Усё гэта наўрад ці працуе на карысць іміджа дзейнай улады.

Відавочна, сёння для нашых людзей часы насталі няпростыя. Насамрэч, што азначае паняцце "сярэдні заробак" на практыцы? Цікава, што ёсць стратныя прадпрыемствы, дзе рабочыя атрымліваюць 1,5 – 2 млн. рублёў у месяц, у той час як дырэктар і яго намеснікі могуць 5 – 6 млн. рублёў у месяц і болей.

Увогуле, трэба адзначыць, што вертыкаль улады штодзённа цвердзіць аб эфектыўным механізме кантролю за развіццём грамадска-палітычнай сітуацыі ў цэлым. Спадарыня Вярцінская паведаміла супрацоўнікам міліцыі аб ходзе выбарчай кампаніі ў Палату прадстаўнікоў. Вядома, што і ў гэтым накірунку дзейнасці ўлады забяспечана "стабільнасць". Кіраўнікі прымуць адпаведныя меры, і работнікі пойдуць на выбарчыя ўчасткі, дзе сядзяць дзяжурныя міліцыянеры. Але з участкаў выбаршчыкі выйдуць на вуліцы зусім не "застабілямі". Не пашкодзіла б ідэолагам ведаць рэальныя адносіны насельніцтва да нормаў правапарадку. Чамусьці дзяржаўны СМІ у асноўным распавядаюць аб крымінальнай злачыннасці. Аднак лічбы ўражваюць, калі азнаёміцца з данымі аб адміністрацыйных правапарушэннях, па якіх органамі правапарадку вынесены пастановы аб накладанні адміністрацыйных спагнанняў. Паводле даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у краіне назіраецца рост колькасці правапарушэнняў, асабліва ў параўнанні з папярэднімі гадамі. Статыстыка сведчыць, што на Беларусі за 2011 год было вынесена 2,7 мільёнаў адміністрацыйных спагнанняў на 9,5 мільёнаў беларусаў ( у 2010 годзе –2,6). Пры гэтым за тры гады рост спагнанняў склаў больш 810 тысяч выпадкаў. Ёсць над чым задумацца: каля трох мільёнаў грамадзян у год прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці! Чамусьці наш "талерантны" беларускі народ так хутка паспеў зарабіцца правапарушальнікам. Прычым 2,1 млн. спраў у мінулым годзе разгледжана органамі ДАІ.

Юрысты сцвярджаюць, што прававая свядомасць нашых грамадзян застаецца на нізкім узроўні. Даўно заўважана, што паводзіны простых грамадзян цалкам адпавядаюць і прававой культуры прадстаўнікоў улады. Як народам кіруюць, так ён сябе і паводзіць.

**Я. Вайтовіч.**

НАШЫ "ПАРЛАМЕНТАРЫІ"

# КОНЬ В СЕНАТЕ

ИЗВЕСТНЫЙ ИСТОРИЧЕСКИЙ ФАКТ: РИМСКИЙ ИМПЕРАТОР КАЛИГУЛА ВВЕЛ В СОСТАВ СЕНАТА СВОЕГО КОНЯ. ТАКИМ ОБРАЗОМ, КОНЬ ПО КЛИЧКЕ ИНЦИТАТ ВОШЕЛ В ИСТОРИЮ КАК САМЫЙ ВЫСОКОПОСТАВЛЕННЫЙ ЖЕРЕБЕЦ, А ИМПЕРАТОР КАЛИГУЛА ДОЛГО СЧИТАЛСЯ СУМАСШЕДШИМ. ОДНАКО СЕЙЧАС ИСТОРИКИ ПЕРЕСМОТРЕЛИ СВОИ ОЦЕНКИ.

В новой исторической трактовке считается, что Калигула при соблюдении всех демократических процедур (конь был объявлен гражданином Рима, как требовал закон того времени) просто высмеял бездельников. Более того, выяснилось, что когда эксцентричный император был убит, народ выступил против вывода коня из сената.

Потому что в отличие от других законодателей, Инцитат никого в тюрьмы не сажал, дурных советов не давал и требовал совсем немного на свое содержание.

Две тысячи лет прошло, а какие очевидные параллели! Калигула, он же Гай Юлий Цезарь, известен своим принципом: «Пусть ненавидят, лишь бы боялись». Ну а конь… Нет, лица в белорусском парламенте человеческие. Но все-таки уже очевидно, что наш правитель тоже сделал свой ход конем, формально использовав для этого демократические процедуры.

Простой пример из жизни сегодняшней Беларуси недавно привел епископ Гомельский и Жлобинский Стефан. Так и сказал: «Самый простой пример». «Вы знаете, что в домах престарелых есть норма, согласно которой лежачему человеку положен один памперс на трое суток? – спросил епископ Стефан у журналиста газеты «Вечерний Гомель». – Можно ли содержать так лежачих людей?»

Я тоже журналист, и я этого не знала. Даже мысли, даже тени подозрения не было, что можно дойти до такой степени цинизма. Громогласно отчитаться, что лежачих больных государство обеспечивает памперсами и подгузниками, засветиться в качестве заботливых благодетелей в СМИ и на телеэкранах, а на самом деле установить издевательскую норму «один – на три дня». Почему не один на месяц или даже на год? Какими физиологическими процессами обоснована эта норма?

Конечно, даже не надо быть медиком, чтобы понимать, что человек от такого «подарка» будет умирать в вони и собственных испражнениях. Но в Палате представителей было 14 депутатов-врачей, большое профессиональное лобби. Как они могли молчать? Те, кто давал клятву Гиппократа. Те, кто знает и видел, что такое лежачий больной. Почему никто из них ни разу даже не заикнулся, что государство просто не имеет права тратить миллионы долларов на то, чтобы запускать в космос спутники или отправлять экспедиции в Антарктиду, когда так страшно умирают собственные граждане?..

14 врачей сидели в Палате представителей как народные избранники, но так истово одобряли все решения власти, что даже не вспомнили о некоторых физиологических отличиях, которые есть между мужчинами и женщинами. Хотя именно из-за этих особенностей строения организма инвалиды-колясочники, лежачие, парализованные мужчины используют не памперсы, а наружные урологические катетеры.

Эти злополучные катетеры и мочеприемники вообще не попали в списки изделий санитарно-гигиенического назначения, которыми государство обеспечивает инвалидов. Про тысячи человек, про тысячи больных мужчин просто забыли, о них никто даже не подумал. Будто их нет, будто они уже умерли или испарились. Так какой вообще толк от того, что в парламенте заседали врачи?

Конечно, в XXI веке это вообще позор – иметь такую проблему. Это стыд невероятный – экономить на памперсах и катетерах для больных людей. Это скотство – вычеркнуть из списка тех, кому положены памперсы, глубоких стариков, главный диагноз которых – старость. Это просто какая-то форма государственного людоедства. Потому что простейшее и элементарное, что государство должно обеспечить своим больным и немощным – право жить и умирать, извините, не в моче и фекалиях.

Однако никто из депутатов не осмелился на эти темы даже говорить, не то что добиваться и требовать. Хотя это не политика. Это не защита политзаключенных. Это не с открытым забралом да против коррупции, против силовиков. Это то, что даже в наших условиях они могли и должны были делать. И все равно не стали. Струсили.

Они струсили по мелочи, и тем более трусили по-крупному. Беларусь вымирает. Разными хитростями выводят из статистики смерти от онкозаболеваний, но очевидное невозможно спрятать: в каждой белорусской семье есть умершие от рака и редко у кого – от старости.

По последним данным РНПЦ онкологии и медицинской радиологии, за последние 10 лет заболеваемость раком в Беларуси выросла на треть, на 34%. Правда, никто по этому поводу не кричит «Караул!». И даже наоборот, нас всячески успокаивают, что не надо паниковать, потому что такая тенденция во всем мире, и дальше будет только хуже.

Вроде все так. Только во всем мире рак выявляют на ранних стадиях и лечат. А у нас – когда человек начинает загибаться, сам идет к врачу, но сделать уже ничего невозможно. Врачи прекрасно знают это важное отличие. Знают, что во всем мире для выявления рака на ранних стадиях выстроена целая система. Знают, что простейшее и элементарное в ранней диагностике – это анализ крови на онкомаркеры. Вот заболели вы, скажем, ангиной или, абсолютно здоровый, пришли за водительской медсправкой, и вас отправляют сдать такой анализ.

Посчитав белки-гормоны в крови, оказывается, можно выявлять опухолевые процессы в самом начале. Только нашему государству это не надо. У нас не нашлось денег. На самые разные причуды и авантюры, на «Славянский базар», на хоккей, на новые самолеты, на новые резиденции деньги есть, а на спасение людей от смертельных стадий рака – нет. И именно депутаты принимали такие законы о государственном бюджете. «За» голосовали даже депутаты-медики.

Кто они после этого? Врачи? Государственные деятели? Представители народа?..

Чем больше думаешь, тем очевиднее, что конь в сенате это действительно некий символ уровня нынешнего белорусского парламентаризма. Правда, кормим мы его слишком щедро.

**Светлана КАЛИНКИНА, «Народная воля».**

НУ І НУ!

# ЗАНИМАТЕЛЬНАЯ АРИФМЕТИКА

УХОДЯЩАЯ НЕДЕЛЯ ПОДАРИЛА ЧУДНУЮ ИГРУ ЦИФР. В ПЕРВОМ ПОЛУГОДИИ ДОХОДЫ БЮДЖЕТА БЕЛАРУСИ ОТ ПРИВАТИЗАЦИИ СОСТАВИЛИ ОКОЛО 1 МИЛЛИОНА ДОЛЛАРОВ, А ПЕРВЫЙ ЗАМЕСТИТЕЛЬ ПРЕДСЕДАТЕЛЯ МИНГОРИСПОЛКОМА ИГОРЬ ВАСИЛЬЕВ ВЫМОГАЛ У ИНОСТРАННОГО ИНВЕСТОРА ВЗЯТКУ В РАЗМЕРЕ 500 ТЫСЯЧ «БАКСОВ».

Конечно, эти два темы напрямую друг с другом не связаны. Но соотношение всё равно впечатляет: по данным КГБ, госчиновник требовал «на лапу» сумму, равную половине поступлений от приватизации в масштабах всей страны!

А хотите еще немного занимательной арифметики? Согласно обязательствам перед Антикризисным фондом ЕврАзЭС Беларусь в 2012 году должна обеспечить поступления от приватизации на 2,5 миллиарда долларов. По итогам первого полугодия, план выполнен на 0,04%.

И, на закуску: 1 год и 9 месяцев – столько провел на посту первого заместителя председателя Мингорисполкома Игорь Васильев. До этого он работал директором минского комбината силикатных изделий, то есть чиновником не являлся. Вот и возникает вопрос: то ли наши госструктуры портят и развращают людей в кратчайшие сроки, то ли на вторую должность в столице изначально брали маститого взяточника?

Да, кстати: согласие на назначение Игоря Васильева в Мингорисполком давал видный борец с коррупцией Александр Лукашенко. Может, он теперь сам себе строгий выговор объявит за очередной провал в кадровой политике?..

**Вадим Ливнев.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ: ЧАМУ ТРЭБА ІСЦІ НА ВЫБАРЫ

"КАЛІ СТАВІШ МЭТУ "ПАКАЗАЦЬ ДУЛІНУ" ЎЛАДЗЕ І СКАЗАЦЬ, ШТО ЯНА КЕПСКАЯ, ТО БАЙКОТ – НІБЫТА НАРМАЛЬНА. АЛЕ КАЛІ ХОЧАШ ДАЙСЦІ ДА ЛЮДЗЕЙ, ЗМЯНІЦЬ ДУМКУ, ЗАВАЯВАЦЬ РОЗУМ ЛЮДЗЕЙ, ТО ТРЭБА ІСЦІ ДА ІХ", – ЗАЯВІЎ АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ У ІНТЭРВ'Ю ЖУРНАЛІСТАМ "БЕЛСАТУ".

У штабе Мілінкевіча рыхтуюцца да актыўнай агітацыі. Аляксандр Мілінкевіч вылучаецца кандыдатам у Менску па Уручанскай 109-й акрузе. У ягонай ініцыятыўнай групе больш за 350 асобаў, сярод якіх – бард Зміцер Бартосік, былы палітвязьнямі Мікіта Ліхавід, палітык Рыгор Кастусёў, эканаміст Сяргей Чалы, былы віцэ-рэктар ЕГУ Уладзімір Дунаеў.

Палітык упэўнены, што большасць беларусаў расчараваныя ў дзейнай уладзе і хочуць пераменаў. "Людзі заўсёды пытаюцца: а што вы хочаце зрабіць? Чаму пры вас жыццё мае стаць лепшым? Каб гэта патлумачыць, трэба ісці на выбары, ісці і казаць праўду: і пра палітвязняў, і пра тое, што сапраўдных выбараў няма. Але без паходу на выбары мы маргіналізуемся і людзі думаюць, што ўвогуле няма альтэрнатывы", – мяркуе лідар Руху "За Свабоду".

### "Без ілюзіяў"

Аляксандр Мілінкевіч падкрэслівае, што ўладам цалкам падкантрольны выбарчы працэс – ад вылучэння і рэгістрацыі кандыдатаў да падвядзення вынікаў, што дае магчымасць атрымаць парламент у выгадным для адміністрацыі складзе.

"Дэмакратычнага працэсу няма, але гэта не азначае, што ў выбарах не трэба ўдзельнічаць, – гаворыць Аляксандр Мілінкевіч. – Я удзельнічаў аднойчы ў байкоце, у 2000-м годзе. Тады толькі Мікола Статкевіч быў супраць, а мы ўсе не ўдзельнічалі. Лічу гэта памылкаю, а Мікола меў рацыю. Дарэчы, Мікола Статкевіч і сёння кажа – адтуль, з турмы, з самых цяжкіх умоваў: ідзіце да канца, распавядайце праўду, але не здымайцеся, не рабіцеся маргінальнымі".

### "Іду з "Народнаю праграмаю"

Палітык заўважае, што ўлады працягваюць палітыку жорсткіх рэпрэсіяў супраць сваіх палітычных апанентаў. "Улады так сябе паводзяць, бо адчуваюць няўпэўненасць. Рэйтынг Лукашэнкі значна ўпаў, і ён не мае рэсурсаў, каб аднавіць гэты рэйтынг", – пакрэсліў Мілінкевіч. "Людзі запалоханыя, але і сама ўлада ў шокавым стане: старая мадэль не працуе, патрэбная новая. Мы будзем распавядаць пра "Народную праграму", якую склалі больш за 40 экспертаў, што выпрацавалі канкрэтныя падыходы, "дарожныя мапы" таго, што трэба рабіць у розных кірунках, – распавядае Аляксандр Мілінкевіч. – Мы маем фундаментальны дакумент, які абмеркаваны з людзьмі і складзены найлепшымі экспертамі Беларусі".

**Прэс-служба Руху "За свабоду!".**

РОЗНАЕ ЖЫЦЦЁ

# МЯСО ВАРШАВСКОЕ И БЕЛОРУССКОЕ

В Варшаве белорусу обыкновенному избалованному социальным государством и 5,5% ростами ВВП, придется переживать удивления. Например, попробуйте объясните ему, зачем на билбордах по всему городу рекламировать мясо по 31.600 руб. (12.89 злотых)? Без кости – пишут они на этом своём билборде. Мне кажется нагло, нет?!

Нуждается ли данная свинина в рекламе? А не спровоцирует ли асоциальную очередь в мясном отделе, потом эти неприличные гыгы на ютубе. Уверены ли поляки в том, что резервы стабилизационного фонда Варшавы не истощатся в два дня по причине массового вывоза без кости за пределы страны в восточном направлении для дальнейшей бесконтрольной перепродажи еще восточнее? И, главный вопрос для белоруса обыкновенного – сколько там кило в одни руки-то за раз?

Самое социальное мясо в Минске стоит 37.450 руб. Оно и называется по-человечьи: "спинно-поясничная часть". Тут белорусу, оказавшемуся западнее от социальной своей страны, снова будет непросто – как сравнивать в цене мясо отечественное с ихним, если поляки не догадываются писать на свинине "п/ф мясокостный для вторых блюд из свинины" – 41.100 руб., как в магазинах Минска. Зато наше мясо настоящее социальное, с костью, приличной жирности и со шкуркой же.

Попробуй найди такое в Варшаве. Ага, ищи.

Там по цене нашего "п/ф мясокостного" продают, например, филейную часть (17.99 злотых или на наши 44.000 руб). В Минске филей идёт по 77.650, но это наш филей замороженный. В Варшаве по такой цене продаётся, например, пастрома (29.99 злотых или 73.380 рублей).

Не стоит рассчитывать на мясо мороженное в варшавских магазинах. Не теряйте времени зря, берите что дают, пускай даже это мясо без кости. Дома разрежете на эти странные магазинные куски, заморозите в холодильнике – и будет вам родное отечественное "п/ф", всё как вы любите.

Лопатка без кости в Варшаве стоит 13.99 злотых, на наши это неприличные 34.300 руб. Хотя б кость оставили что ли…. В мясном отделе минской крамы свинина, называемая похоже – "лопаточный отруб" – тоже недорого 38.050 руб. за кг. Но этот "отруб" рубил, кажется, маньяк, очень старался избавиться от мяса на кости. "Лопатка без кости" в магазине "Гурман" на этой неделе стоит 74.780 руб. Это 2 кило 180 грамм варшавской такой же.

Вот рёбрышки – и в Варшаве рёбрышки. Только там по 40 тысяч на наши рубли (15.99 злотых). У нас столько рулька стоит. Ребра в "Гурмане" идут по 67.130. И на вид уступают ихним. Хотя и цены уже достаточно.

**Виктор Малишевский, malishevsky.livejournal.com.**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ДЫЯЛОГ “ПА ПАНЯЦЦЯХ”

БЕЛАРУСКІЯ СЛУЖБОЎЦЫ ЗНОЎ ПАЧАЛІ ЕЗДЗІЦЬ НА ЗАХАД, АЛЕ РАЗГЛЯДАЦЬ ГЭТА ЯК ЗМЕНУ ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАГА КУРСУ АФІЦЫЙНАГА МІНСКА НЕ ВАРТА.

У Вену прарвалася невыязная старшыня ЦВК, а ў Брусэль запрасілі міністра замежных справаў. Паразуменьне не дасягнута, паведамляе Польскае радыё.

Не пасьпеў мінуць ажыятаж зьвязаны з паездкай Лідзіі Ярмошынай у Вену на канфэрэнцыю АБСЭ, як у Эўропу зноў падаўся беларускі афіцыйны важжор. Гэтым разам у Брусэль наведалася цэлая беларуская дэлегацыя на чале зь міністрам замежных справаў Сяргеем Мартынавым. Дэлегацыя ўзяла ўдзел у 3-й сустрэчы міністраў замежных справаў краін-партнэраў “Усходняга партнэрства”. Афіцыйная тэма сустрэчы – абмеркаваньне “дарожнай мапы” Усходняга партнэрства ды ініцыятываў па далейшым разьвіцьці гэтай праграмы да 2013 году. Летась беларускія ўлады ігнаравалі такія мерапрыемствы. Няўжо афіцыйны Менск узяў курс на пацяпленьне адносінаў з ЭЗ? Не, - пераканаыны палітоляг Андрэй Фёдараў. Андрэй Фёдараў: Гэтыя падзеі, якія адбыліся ў Вене ды Брусэлі, дачыненьня да Беларусі ня мелі. Гэта былі ардынарныя мерапрыемствы ў межах АБСЭ ды “Ўсходняга партнэрства”. Паколькі Беларусь ня выключаная ані з той, ані зь іншай арганізацыі, то ёй накіроўваецца афіцыйнае запрашэньне. Беларускі бок накіроўвае туды сваіх прадстаўнікоў.

Цяжка ўбачыць адзнакі пацяпленьня ў заявах абодвух бакоў. Напрыклад, паводле паведамленьня МЗС Беларусі, Сяргей Мартынаў у Брусэлі казаў пра неабходнасьць няўхільнага выкананьня базавых прынцыпаў УП, пра недапушчальнасьць дыскрымінацыйных падыходаў і пераадоленьне дэфіцыту дэмакратыі ўнутры “Ўсходняга партнэрства”. Што хаваецца за гэтай афіцыйнай новамовай, тлумачыць палітоляг Аляксандар Лагвінец: “Рэжым увесь час шле сыгналы аб’яднанай Эўропе, дамагаючыся прызнаньня сытуацыі такой, якой яна ёсьць, то бок, ніякага ціску ў справе дыктатуры ў краіне. Вось таму асабісты міністар Лукашэнкі Мартынаў быў накіраваны ў Брусэль, каб яшчэ раз агучыць такую пазыцыю Лукашэнкі.

З эўрапейскага боку ў сустрэчы ўдзельнічалі Вярхоўны прадстаўнік ЭЗ па замежных справах Кэтрын Эштан, эўракамісар па пашырэньні ЭЗ Штэфан Фюле, кіраўнікі зьнешнепалітычных установаў краінаў ЭЗ ды краінаў УП. Іх пасланьне да афіцыйнага Менску мела наступны характар: няма месца палітвязьням у сэрцы Эўропы. Пра гэта паведаміла Кэтрын Эштан на прэсавай канфэрэнцыі па выніках сустрэчы. Яна зазначыла, што ЭЗ яшчэ раз гучна заявіў пра сваю занепакоенасьць сытуацыяй у Беларусі, у тым ліку адсутнасьцю павагі да правоў чалавека, вяршынства закона, дэмакратыі й незалежнасьці СМІ. Таксама было заўлена пра неабходнасьць неадкладнага вызваленьня й рэабілітацыі усіх палітзьняволеных.”

Ці афіцыйны Менск успрыме дадзенае пасланьне? У гэтым сумняецца Андрэй Фёдараў: “На жаль, афіцыйны Менск гэтага не пачуе. Мы чулі заявы Аляксандра Лукашэнкі, што мяч на баку Эўропы. Афіцыйны Менск лічыць, што сваю частку зрабіў, выпусьціўшы Саньнікава й Бандарэнку, а Эўропа на гэта не адгукнулася. Пакуль ня будзе гэтых мераў у адказ, беларускія ўлады нічога ня будуць рабіць. На дадзены момант нічога не прымушае беларускія ўлады ісьці насустрач гэтым заклікам.”

Беларускія ўлады не гатовыя нічога мяняць у краіне, бяз гэтага размовы паміж Брусэлем ды афіцыйным Менскам безвыніковыя, перакананы Аляксандар Лагвінец: “ЭЗ ня робіць градацыі паміж палітвязьнямі ды чакае вызваленьня ўсіх. Тады будзе заўважны крок насустрач з Эўразьвязу. Пакуль жа беларускія ўлады вельмі моцна расчаравалі Брусэль ды іншыя сталіцы, нават тых, хто хацеў бы больш цесна супрацоўнічаць з рэжымам. Таму ніякіх зрухаў чакаць ня варта. Тым больш, што сытуацыя пагаршаецца, зьяўляюцца новыя палітвязьні. Бачна, што сёньня рэжым не гатовы мяняць нешта ўнутры краіны дзеля дыялёгу з ЭЗ.”

Эўрапейскі Зьвяз раз за разам выказвае сваю занепакоенасьць сытуацыяй у Беларусі. Брусэль нагадвае Менску абяцаньні спыніць рэпрэсіі. Беларускія ўлады адказваюць на гэта, што трэба бачыць праблемы з правамі чалавека ў краінах ЭЗ. У гэты ж час у Беларусі пачалі саджаць фатографаў ды рыэлтараў па палітычных справах.

ЛОНДАНСКАЯ АЛІМПІЯДА

# “МЫ СКОЧВАЕМСЯ НА ЎЗРОВЕНЬ ДРУГОГА СВЕТУ”

ЛІДАР РУХУ «ЗА СВАБОДУ» АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ НЕ БАЧЫЦЬ НЕЧАГА ДЗІЎНАГА Ў ТЫМ, ШТО ЛУКАШЭНКА НЯ ЗМОГ ТРАПІЦЬ У ЛОНДАН.

«Паколькі ўезд у Эўропу забаронены, а Вялікабрытанія ўваходзіць у ЭЗ, то проста рэалізавалася тое, пра што гаварылі эўрапейскія палітыкі з Брусэлю. І нягледзячы на тое, што Лукашэнка – прэзыдэнт беларускага НАК, гэта не дапамагло. Мне вельмі шкада,што Беларусь ня можа быць паўнавартаснай сярод эўрапейскіх краінаў. І гэта мае наступствы – эканамічныя праблемы ў стасунках з ЭЗ. Мы скочваемся на ўзровень другога сьвету, што мне вельмі балюча. Лукашэнка, можа, і сам перажывае. Але мне баліць за краіну», – пракаментаваў Радыё Свабода сітуацыю

**Аляксандар Мілінкевіч.**

ЖЫЦЦЁ Ў РЭГІЁНАХ

# ЧАМУ ЛЮДЗІ СТРАЙКУЮЦЬ?

СЯРЭДНІ ЗАРОБАК ПАСТУПОВА РУХАЕЦЦА ДА АДЗНАКІ 500 ДАЛЯРАЎ, АДНАК, ЯК І ПАПЯРЭДЖВАЎ МІНІСТР ФІНАНСАЎ БЕЛАРУСІ, АТРЫМЛІВАЦЬ ЯГО БУДУЦЬ ДАЛЁКА НЕ ЎСЁ. ТРЫ ЧВЭРЦІ АРГАНІЗАЦЫЙ, ЯКІХ ЎЛІЧВАЕ АФІЦЫЙНАЯ СТАТЫСТЫКА, МАЮЦЬ ЗАРОБАК ДА 3 МЛН. РУБЛЁЎ. НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНАЯ ЗАРПЛАТА Ў РЭГІЁНАХ - 2-2,5 МЛН. РУБЛЁЎ. НЕВЫСОКІЯ ЗАРОБКІ СТАНОВЯЦЦА ПАДСТАВАЙ ДЛЯ ХВАЛЯВАННЯЎ У ПРАЦОЎНЫХ КАЛЕКТЫВАХ.

### «Як можна жыць на 1,8 млн. рублёў у месяц?»

На прадпрыемстве «Гроднажылбуд» рабочыя на мінулым тыдні наладзілі страйк, выказваючы тым самым незадаволенасць нізкім узроўнем аплаты працы. У адміністрацыі прадпрыемства (а таксама ў прафкаме) сітуацыю па тэлефоне каментаваць адмовіліся. Разам з тым, карэспандэнту БелаПАН ўдалося знайсці двух супрацоўнікаў прадпрыемства, якія пацвердзілі факт забастоўкі і растлумачылі яе прычыны.

«У страйку прымала ўдзел 200 чалавек», - паведаміў БелаПАН грузчык гарадзенскага прадпрыемства. Удзельнікі акцыі пратэсту настойвалі на павышэнні заработнай платы. Работнікі гродзенскага прадпрыемства распавядаюць, што існуючая зарплата не дазваляе нармальна жыць.

«Як можна жыць на 1,8 млн. рублёў у месяц? Як за такую зарплату можна сям’ю пракарміць і крэдыты выплачваць? », - Здзіўляецца работнік« Гроднажылбуда».

Раней на гарадзенскім прадпрыемстве ўжо ўздымалася пытанне аб заработнай плаце. Працоўныя паведамілі БелаПАН, што месяц таму спрабаваў страйкаваць арматурны цэх. Тады рабочым паабяцалі зарплату падняць, аднак гэтага так і не адбылося. «Яны вось зараз не атрымалі (обещанную. - БелаПАН) заробак, і пайшлі страйкаваць», - распавядае супрацоўнік гродзенскага прадпрыемства, каментуючы пятніцкія падзеі.

Незадаволенасці рабочых у Гродна не здаюцца дзіўнымі, калі ўлічыць той узровень заробкаў, які прапануецца сёння ў рэгіёнах.

Паказальная ў гэтым сэнсе статыстыка аб вакансіях у абласных цэнтрах. Брэсцкі аблвыканкам, да прыкладу, прапануе сёння каля 4000 вакансій. У пераважнай большасці выпадкаў (3500 вакансій) прэтэндэнтам прапануецца зарплата да 2,5 млн. рублёў, што эквівалентна 300 далярам. Знайсці працу з сярэдняй зарплатай (у траўні яна склала 3,6 млн. рублёў) у Брэсцкай вобласці вельмі складана. Толькі каля ста вакансій з вышэйназваных 4000 прапануюць зарплату, якая адпавядае або перавышае сярэднюю па краіне.

«Працаўнікі ліцейных цэхаў Брэсцкага машынабудаўнічага завода, якія па ідэі павінны быць высокааплатнымі спецыялістамі, зарабляюць сёння каля 2,6-2,7 млн. рублёў», - кажа старшыня Брэсцкай абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага Валянцін Лазарэнкаў. У брэсцкай гандлі, адзначае ён, зарплаты яшчэ ніжэй - касірам прапануецца 1,5 млн. рублёў у месяц. «Пры сённяшніх цэнах заробак любога працоўнага павінна пачынацца з трох мільёнаў рублёў», - перакананы Лазарэнкаў.

З улікам невысокай зарплаты, якая склалася ў рэгіёнах, карыстаюцца попытам прапановы аб працаўладкаванні ў Расіі. Праўда, «сацыяльны пакет» такога працаўладкавання вельмі своеасаблівы. «На слупах у Гродне з’явіліся аб’явы аб працаўладкаванні ў Расіі токараў, фрэзероўшчыкаў, наладчыкаў. Прапануецца: 11-гадзінны працоўны дзень, шасцідзённы працоўны тыдзень, абяцаная зарплата - ад 10 млн. да 20 млн. рублёў у месяц », - распавядае актывіст незалежнага прафсаюзнага руху Анатоль Хацько.

Нягледзячы на тое, што ў дадзеным выпадку адкрыта парушаюцца нормы працоўнага заканадаўства, прапанова расійскага працадаўцы будзе запатрабавана беларускімі рабочымі, мяркуе Хацько. «Людзі ўсё, што могуць, зробяць, каб нейкую капейку зарабіць», - кажа актывіст прафсаюзнага руху.

### Рызыка павышэння зарплаты на Радзіме

З улікам розніцы ў заработнай плаце, падставы для адтоку кадраў з Беларусі за мяжу існуюць. Па апошніх дадзеных, якія прыводзіць статкамітэт СНД, у траўні 2012 сярэдняя зарплата (у эквіваленце) у Расіі складала 850 даляраў, у Казахстане - 660 даляраў, у Азербайджане - 483 даляра, у Беларусі - 435 даляраў.

Беларускі ўрад, памятаючы пра магчымыя наступствы неабдуманага росту заробкаў, паспяшалася праз тры дні пасля заявы прэзідэнта, удакладніць, якая палітыка будзе праводзіцца ў дачыненні да даходаў насельніцтва. «Калі мы гаворым аб зарплаце, эквівалентнай 500 далярам, трэба разумець, што мы кажам аб сярэдняй велічыні ... Гэта не значыць, што кожны працаўнік да канца года атрымае эквівалент 500 даляраў», - растлумачыў міністр фінансаў Андрэй Харкавец, адказваючы ў другой палове чэрвеня на пытанні журналістаў.

Старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук, каментуючы планы павышэння заробкаў, адзначае, што беларускія ўлады, вобразна кажучы, апынуліся сёння паміж Сцылай і Харыбдай. «З аднаго боку, існуе крайняя неабходнасць павышэння заробкаў. А з іншага боку, рэальных магчымасцяў для павышэння заробкаў сёння вельмі мала. Шлях, які прапагледжвае апярэджанне росту заробкаў над ростам прадукцыйнасці, можа спраўакаваць падзеі 2011 года », - мяркуе Ярашук.

Улічваючы гэтыя рызыкі, дадае ён, міжнародныя назіральнікі не падтрымліваюць планы афіцыйнага Мінска па павышэнню заробкаў. «Падчас ліпеньскага візіту прадстаўнікоў МВФ у Мінск яны прама, сустракаючыся з намі, сказалі, што заявы кіраўніцтва краіны аб давядзенні зарплаты да канца года да 500 даляраў перакрэсліваюць магчымасць будучага супрацоўніцтва фонду з Беларуссю», - рэзюмаваў Ярашук.

**Дзмітрый Заяц, naviny.by.**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 30.07.2012 у 20.15.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.